Зоя Падліпская

# МАЛЮСЯ ЗОРАМ

*Выбранае*



Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"
2014

УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-1
ББК 84(4Беи)-5
П12

**Падліпская, З. І.**
П12 **Малюся зорам** : выбранае / З. І. Падліпская. – Мінск : Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2014. – 96 с.
ISBN 978-985-7107-01-8

Паэтычны зборнік Зоі Падліпскай «Малюся зорам» змяшчае лепшыя творы, напісаныя ў розныя гады.
Паэзія прасякнута шчырай спавядальнасцю, чысцінёю пачуццяў і светлай духоўнасцю. Аўтар застаецца вернай асноўнай тэме творчасці – тэме кахання.
Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7107-01-8**

I раздзел

# ГОРКІ ПАЦАЛУНАК



* * *

Выкідаю слова “немагчыма”
Назаўжды са слоўніка свайго.
Маладосці крылы за плячыма
І з нябёсаў – шчодрае святло.

Радасна-пакутнаю душою
Спасцігаю спакваля жыццё…
Невымоўны астравок спакою –
Лёсу-крыжаванкі адкрыццё.

Плачу, размаўляю і смяюся.
Залацінкай кожны новы дзень.
І малю: дай, Божа, Беларусі
Сонечных і спраўджаных надзей.

1999

## САНЕТ

О першы пацалунак на дваіх!
З табой мы прастаялі да світання.
Я помню ціхі дотык губ тваіх
І хваляванне першага спаткання.

Буйныя тыя росы, водар траў
І любых рук нязнаная пяшчота.
Каханай сарамліва ты назваў,
І зоры віншавалі нас употай.

Ды так, напэўна, створан чалавек:
Не можа ён прадбачыць штось навек.
Цябе не зразумела я як след.

У сэрцы засталася шчасця метка…
Каханне першае не пустацвет –
Дзівоснай папараці кветка.

1990

## АДЗІНОТА

Адзінота. Адзінота. Адзінота.
Як развеяць змрочную тугу?
Подых ветру, летні шэпт лістоты
Ў сэрцы назаўсёды зберагу.

Цёплыя дзянькі усё радзей,
Ліст апошні стыне на бярозе –
Цёплы вугалёк з кастра надзей.
Шчасце затрымалася ў дарозе.

Восеньскі марозік лашчыць слота,
Студзіць сэрца горкая пяшчота.
Цяжкая душэўная работа –
Адзінота. Адзінота. Адзінота.
Адна нота…

1992

# ГОРКІ ПАЦАЛУНАК

Я разумею: ты – даўно не мой,
Не трэба шчасця нізкага гатунку.
Стараешся зрабіць мяне нямой,
Апёкшы вусны горкім пацалункам.

Што ж, прамаўчу. Хоць вельмі прыкра мне,
Што стала нам і холадна, і цесна.
Хай журавы загадкавай вясне
Спяюць самотна развітання песню.

На вальс запросіць жоўты лістапад…
Адорыць срэбрам снежань пасівелы
І замяце шляхі ў дзівосны сад,
Дзе прыпамін цвіце цнатліва-белы.

Жыла табой. А ты – даўно не мой.
Паэзія – адзіны паратунак.
Гарыць рабіна снежнаю зімой,
Як той апошні, горкі пацалунак.

1994

## ЧУЕШ, ЛЮБЫ?

Чуеш, любы, як сэрца плача?
Ці ж патрэбны тут боль і сум?
Завітала да нас удача
Цягнікам растрывожаных дум.

Адчуваю на вуснах горыч.
Сівізна на траве ад расы…
Смутак з радасцю крочаць поруч,
І не трэба ніякай слязы.

Больш душу не дазволю ўкрасці:
Ты падхопіш яе крылом.
Дык навошта, навошта шчасце
Сустракаць праліўным дажджом?

1992

## НА КРЫЖЫ

Стамілася ад горкага чакання.
Пяшчоту вуснаў студзіць
горыч слёз.
Запозненасць маруднага вяртання:
Зблудзіў між дзвюх
абпаленых бяроз.
Каторы раз жыццё перабіраю,
Той красавік у думках варушу…
І кожны раз шчасліва паміраю,
Распяўшы на крыжы сваю душу.
Мая галгофа, мой апошні
бераг
І першы крок у новы, дзіўны свет.
…Зноў выратуе чысты
ліст паперы.
Ствару на ім свайго жыцця санет.

1994

## А ТЫ… А Я…

А ты мяне не зразумеў.
А я табе не даравала.
Хоць салаўіны шчодры спеў
Глыбока ў сэрцы прыхавала.

А ты мяне ўсё ж не пачуў…
А я – маўчала!
Хоць болем роспачным "пачуй!"–
Душа крычала.

А ты у вечным тлуме спраў
Зноў спеліш мроі,
Дзе райскіх дзён салодкі шал
Нам раны гоіць.

Дзе зноў напоўнены прастор
Адвечным сэнсам.
А час – ратункам светлых зор –
Збалелых сэрцаў.

…Ізноў вяртае да жыцця
Даўно забытае: "Мая!"
І шчасцем поўніцца зямля:
– А ты…
– А я…

2008

# ТВАЯ МЕЛОДЫЯ

*Светлай памяці сябра –*
*кампазітара Радзівона Глебава*

Адкіну прэч халоднае “заўчасна”.
Твой сад зямны асыпаўся дачасна…
Апошняй нотай захліпнуўся дождж.

Лёс, як суддзя, дапытлівы і строгі
Зацерушыў жыццёвыя дарогі.
А музыка – жыве! Яна не згасла!

Гучаць твае нябесныя аркестры.
Сціскае сэрца перавясла суму…
Я разумею: найдалей ад тлуму –
У неба, ў вырай! Там – святлей жывецца!

І лёс, нібы доўгачаканы госць,
Прыйшоў у дом твой ціха на світанні…
…Не веру, што ты быў. Ты – ёсць!
Жыве твая мелодыя кахання!

2010

## ТЫ ВЕРНЕШСЯ!

Наш тэлефон маўчыць
каторы дзень…
Усім багам малюся
ў спадзяванні,
Што ворага жахлівы
чорны цень
Адступіцца, адыдзе і –
растане.
Ты вернешся. Ты выжывеш.
Не зломяць баевікі твой
афіцэрскі дух.
А горы смерць-неспадзяванку
тояць…
А горы – сыплюць кулямі
наўкруг!..
І вобраз Яраслаўны праз
гады
Мне стаў такі да болю
зразумелы.
О, адгукніся, любы,
дарагі!
Я ўжо ад невядомасці
нямею.
О неба, сведка войнаў,
перамог,
Твой Млечны Шлях, я ведаю, –
ад Бога.

Вярні! З усіх крывавых
пройдзеных дарог
Вярні майго… Вярні яго…
Жывога.

2004

## САЛЁНАЕ МОРА

Ну, вось і ўсё. Сабе
ўжо не хлушу,
Што ты мая зямная
палавінка.
Я існую… А думкамі –
грашу.
Яшчэ лічу сябе тваёй
часцінкай.
Але – усё. Я не туды
плыла.
Ці варта ушчуваць
няўмеку-лёс?
…А мора шчасця,
радасці, цяпла –
Салёнае. Ад слёз.

1997

## ВІРАЛЭ

Ласкавы позірк любага,
Убору белле шлюбнага.
Вясельны вечар.

Не стала жонкай любаю,
Сустрэлася са згубаю.
А словы – вецер.

1995

## РАБІНАВЫЯ ПАЦЕРКІ

*...И кто-то камень положил*
*В его протянутую руку.*
М. Лермантаў.

Ніводнай зоркі на счарнелым небе.
Наўкол падман і слоў пустыя гукі.
І... камяні замест кавалка хлеба
Прыцiснулі душу і крылы-рукі.

Перажыву бяззор'е і бязвер'е.
Хай надта лёс мяне не дакарае:
Рабінавыя пацеркі прымерала,
А думала – каштоўныя каралі...

2004

## ГОРКІ МЁД

Дні мае, як пчаліныя соты,
Так падобны адзін на другі.
Лёгкі ўздых ды слязінка употай:
Мы з табою – ракі берагі.

Дні пясочкам сцякаюць скрозь пальцы
І вадою, што ўдалеч імкне.
Дні мае – вузкім колцам на пяльцах.
Што ж я вышыю на палатне?

Чырвань сонца вазьму у работу,
І нябёсаў, і зорак блакіт,
А каханне пакіну на потым.
Хто сказаў, без кахання – не  жыць?

Толькі ў сонца – твая пяшчота.
Толькі ў зор – позірк любых вачэй.
Толькі ў дзён маіх вечны клопат –
Горкі мёд у пчаліных сотах.

2003

## ПАПЯЛІШЧА

Усё скончана. Навошта грэбці
попел?
Згарэла хата родная датла.
Навошта ўжо махаць рукамі
потым,
Галосячы ля мёртвага жытла.
Зацяўшы вусны, моўчкі пазіраю.
Апечан твар, ды неяк не баліць.
Суседзі ўсё яшчэ ваду цягаюць,
А я ўжо ведаю: агню ім не заліць.
І праўда, разыходзяцца паціху.
Сардэчна запрашаюць
на начлег.
Сумуе маладзік у цемры ціха,
І плача на дварышчы чорны снег.
Апошнія іскрынкі. Ноч. Вуголле…
Ўсё сціхла, бы пажару й не было.
Чарнее дрэў абвугленае голле,
Нагадваючы чорнае крыло.
…Ляцяць гады. Вандроўнік-вецер
свішча,
Ды па вясне ўзыходзіць малачай,
Але ўсё цягне нас на тое папялішча,
Дзе боль і холад, горыч і адчай.
Ўсё скончана. Даўно гарачы попел
Астыў і зарастае дзірваном.
А ты, нарэшце, зразумееш потым:
Душа (не хата) знішчана агнём.

## НЯЗБЫЎНАЕ

І шал вясновае завеі,
І светлы сум маёй тугі
Табе адзінаму навею,
Мой летуценнік дарагі.

Мы уратуем нашы зоры.
Палон нябёс – ужо навек.
…Сустрэліся ў натоўпе ўчора,
Расой – слязінка з-пад павек.

1999

* * *

Хацелася верыць
                    у чыстае.
А чыстымі былі
Зоры над намі,
Росы на святаянскіх
                    травах,
Вада ў імклівай рацэ,
Полымя купальскага
                    вогнішча.
А твой позірк?
Хацелася верыць
                    у чыстае…
А чыстага было
                    так многа!
І так мала, каб быць
Шчасліваю.

1999

## МАЛЮСЯ ЗОРАМ

Ты думаеш,
Я перастала дыхаць,
Бо, калі ты пакінуў мяне адну
Сярод росных траў,
Недасяжных нябёсаў
І халодных позіркаў
Выпадковых прахожых,
Мне не хапала паветра…
Ты памыляешся.
Усміхнулася сонейка,
Высахла сцюдзёная раса,
І лугавыя травы
Нашапталі мне
Новую загадкавую сустрэчу.
Дыхаю.
Жыву.
Малюся зорам.

1999

## ЗАВУШНІЦЫ

Зноў затужыць імглісты
верасень,
Адплыве туманамі звычна.
Адпалала мядзяным верасам,
Адгарэла агністай
знічкай…
А была ж яна, ночка дзіўная,
Як была навальніца.
На бяду ці на шчасце
Згубіла я завушніцы.
А спрабуе дажджынкамі
верасень
Усміхнуцца.
Я пакінула іх на беразе,
Каб вярнуцца.

Акопы, 1995

* * *

Клічаш
шэптам нарачанскіх соснаў,
крыкам чаек над азёрнай гладдзю,
спевам жвавай крынічкі,
што струменіць ля лесу.
Небам, дзе ўвечары запальваюцца
нашы зоры.
Хвалямі, што нястомна спяваюць
толькі ім вядомую песню.

Не прыйду.
Проста стану мядзянай сасною,
да якой будзеш прыходзіць
зноў і зноў,
каб у роздуме пастаяць на ўзбярэжжы.
Легкакрылай чайкаю, што будзе
лашчыць твой позірк.
Крынічкаю, што здыме стому.
Павeтрам, без якога нельга жыць.
Небам, дзе мы некалі, ўсё ж,
будзем разам.

Не вер,
калі скажуць, што так не бывае…

1999

## НАПРАРОЧ

Залячы. Забінтуй. Напрароч.
Колькі можна трываць гэты
здзек?
Доўга цягнецца змрочная ноч.
Я ж таксама жывы чалавек.
Я – жывая. Адчуй, зразумей:
Мне б таксама – і сонца,
і хмар,
Каб хоць трошачкі стала
лягчэй,
Каб не ціснуў падману цяжар.
Задыхаюся ў цемры глухой.
Не паранена. Горш – паміраю.
Колькі можна душы адной
У жыцці гэтым ран і адчаю!
Залячы. Забінтуй. Напрароч.
Я ў дзівосы купальскія веру:
Светлы ранак і зорная ноч,
І каханне, і шчасце, і вера…
Залячы. Забінтуй. Напрароч.

1997

## ПАХНЕ БЭЗ

Давала ўжо не раз сабе зарок:
Самотных вершаў думаць
　　　　больш не трэба.
А памяць, як маланка,
　　　　　　　　назнарок
Цаляе ў рыфму, рассякае
　　　　　　　　неба,
Куды гляджу з надзеяй
　　　　　　　　і тугой,
Дзе ўвечары гаюча свецяць
　　　　　　　　зоры.
Мне б развітацца з ціхаю
　　　　　　　　журбой
І адпусціць бязладнае “учора”.
Няхай грымоты, і сцяною
　　　　　　　　дождж.
Сугучна думкам водная стыхія.
…Зноў пахне бэз. І ветрык
　　　　　　　　басанож
Бяжыць у верш, прасветлы
　　　　　　і шчаслівы.

2012

* * *

Беражы мяне ад звадак і нягод.
Засцеражы, накрый крылом пяшчоты.
Мелодыяй світальнаю употай
Ўдыхні жыццё у сцішаны радок.

Стань лірнікам, шчаслівым вестуном
Маіх нязбытых смелых летуценняў.
…Загадкавасцю казачных імгненняў
Вясна ваўсю шчыруе за акном.

Наш добры знак, жыццёвы абярэг –
Забыты хмель чаромхавага рання
І вечная мелодыя кахання
У абуджэнні паўнаводных рэк…

2004

## ТАК БЫВАЕ

Халады душой завалодалі,
І кружылася ў танцы апошняе лісце.
Сум маркотнай асенняй мелодыяй
Плыў над лёсам, шукаючы выйсце.

І здавалася восень бясконцай,
А хацелася зноўку адчуць
Светласць промняў вясновага сонца
І дарог, што у лета вядуць.

Ды раптоўна, як навальніца,
Увайшло ў мой халодны дом
Пачуццё, на якое маліцца
Я забыла даўным-даўно.

Ды чародкі крылатых птушак,
Развітаўшыся да вясны,
Абяцалі на крылах гушкаць
Мае самыя светлыя сны.

Ведай, думак пейзаж самотны:
Больш не зможаш хваліцца балем.
…Яркасць фарбаў тваёй пяшчоты.
Так бывае парой. Так – бывае!

2009

* * *

Надыдзе ноч.
Найлепшая з начэй!
Раскрышыць лёд
агонь тваіх вачэй.
Адагрэюся. Наталюся.
Да грудзей тваіх
прыгарнуся.
І раскрыленаю
душою,
Нібы птушкаю
незямною,
Абдыму я
увесь Сусвет.
І на вогнішчы
тваіх слоў
Я згару і
ўваскрэсну наноў.
І адкіну прэч
адзіноту,
Прыручыўшы
тваю пяшчоту,
І забуду, што ў свеце –
восень,
Зноў убачыўшы
неба просінь…

2009

## СОЛЬ НА ВЕЯХ

Соль на веях маіх.
Соль на вуснах.
Соллю шчодра
пасыпаны
Раны мае.
Соль – паўсюдна.
Ў завеях бязглуздых.
Соль марозная –
на акне.
Так было.
Ды паводкай
вясновай
Змыла ўсё у нябыт.
Смак мядовы
на вуснах,
Салодкія мроі,
Пах лясных
медуніц.
Вось і стала жыццё
Салодкім.
Хтось падумае:
не грашы:
Не карысна адно
салодкае.
Хіба можна без солі
жыць?

Можна.
Солі было даволі.
Назапашана – на вякі.
…Прывітанне,
                    мядовыя ночы!
Прывітанне,
                    мядовыя дні!

2012

# ДВА КЛЁНІКІ

Іх пасадзілі ў той дзень,
Калі я нарадзілася…
Гладзіў ім галінкі
Лагодны ветрык,
Здымаў парою дзённую стому
Вясёлы дожджык.
Так і раслі мы. Навыперадкі –
Я і клёнікі.

… Не стала матулі.
Не стала роднай хаты.
Сюды вяртаюся
У снах і ў думках.
І кожны дзень малюся небу –
Высокаму прыстанку
Светлай мамінай душы.
І ім, двум клёнікам, –
Апекунам майго маленства.

2000

## СЛУЧЧЫНЕ

Я нізка пакланюся той
зямлі,
Дзе першы крок свой некалі
ступіла.
Дзе слёзы барвінкамі прараслі
Праз вечны боль –
матуліну магілу.
Дзе сум і радасць у адным
вянку
Спляталіся ў дзівосны час
вясновы.
Шчыміць душа – сасмяглую
раку,
Як і раней, лічу жыцця
асновай.
Тут родныя трымаюць карані
І салаўі спяваюць гэтак дзіўна.
Мой лёс, прашу, мяне абарані,
Не дай чужою стацца
на радзіме.
Куды б мяне дарогі ні вялі,
Я з кожным днём, як з кожным
новым вершам,
Усім сэрцам прырастаю
да зямлі,
Дзе некалі зрабіла
крок свой першы.

1995

## ПАЭТКАМ

Журбой калін,
　　　　святлом бяроз
Асвечана зямля мая…
Шчаслівы лёс –
　　　зайздросны лёс! –
Сцвярджаць сябе
　　　　　зямлянамі.
Тутэйшыя і моцныя
Карэннямі і кронамі.
І слову маці –
　　　　　верныя,
І дрэвам –
　　　　сёстры кроўныя.
І іншага не дадзена,
Бо прамаўляем душамі.
Агнём каліны
　　　　　спраўджваем,
Святлом бяроз –
　　　　　абуджваем.

2002

## ДАЙ СІЛЫ, БОГ

О Беларусь! Рамонкам белакрылым
Ты прарасла у сэрцы назаўжды.
І дай нам, Бог, знайсці, нарэшце, сілы,
Каб вызваліць свой край з нямой бяды.

Дай годнасці,
каб уваскрэсіць слова,
Не апускаць ад сораму вачэй.
Каб не стагнала беларусаў мова
Гаротнай падчаркай сярод дзяцей.

Дай памяці,
каб не забыць навекі
Крывінак след у росах дзірвану,
Каб звацца чалавеку чалавекам
Пад шчодрым небам колеру ільну.

Дай святасці,
каб пакланіцца Храму,
Які мы зневажалі столькі год.
Малюся ў Курапатах кожнай яме,
Дзе прычашчалі смерцю мой народ.

Дай мужнасці,
сапраўднай дай адвагі
Прачнуцца ад сляпога забыцця.
Расплюшчыць вочы горкім бедалагам,
Дай сілы, Бог, а значыць – дай жыцця.

1993

## І ЛЁСУ ВЕРУ Я…

Імкнуся не растраціць
дабрыню,
Хоць выпалі на долю
на маю
І горыч, і вялікая любоў
Праз холад спапяляючы
снягоў.
А лёс паціху шэпча,
як замову:
“Ўся сіла ў дзецях, там
твая аснова –
Развага, розум, шчасце,
дабрыня”…
І лёсу веру я.

1990

## ВЕРНАСЦЬ

*Удаве камандзіра Чырвонай Арміі*
*Марыі Мікітаўне Сапранюк*

Пра гэта ведаў толькі
Бог,
Як ты чакала Перамогі.
І як маліла ўсе
дарогі
Вярнуць яго на свой
парог.
Пра гэта ведаў толькі
Бог.
Яшчэ – маленькія дачушкі.
Душылася слязьмі
ў падушку
І лёс маліла, каб збярог.
Ды не пачуў малітвы Бог.
У дваццаць сем ужо ўдава…
Навошта словы суцяшэння,
Жанок вясковых
галашэнне?
Пакрыта срэбрам галава.
У дваццаць сем ужо ўдава.
… Чарнела сонца
ў вышыні,
І сохлі мальвы каля хаты.

Дамоў вярталіся
салдаты,
А ты не бачыла
вясны:
Магутны Бог,
яго вярні!
І з той пары
да гэтых дзён
Пранесла вернасць
у расстанні,
Святое, чыстае каханне,
Як светлы і чароўны сон.
І войнам жудасным праклён.

1993

## У КАРПАТАХ

Блішчыць пад сонцам горны
                    серпанцін,
І шэрай стужкай сцелецца дарога.
Карпаты! Вы за некалькі хвілін
Нібы рукой знялі мае трывогі.

Напэўна, з адчуваннем вышыні
Знікаюць чалавечыя турботы.
На ўкраінскай сонечнай зямлі
Няма ў душы ні стомы, ні самоты.

Ёсць толькі ў слова малады
                    узлёт.
Адно я сэрцам шчыра занатую:
Любіць бацькоўскі край, яго народ
І паважаць сяброў зямлю святую.

Ужгарад, 1996

* * *

Стаўбцоўшчына! Мой любы
сэрцу край.
Яшчэ адзін куток у Беларусі,
Куды душой збалелаю імкнуся,
Дзе так прыветна стрэне
шумны гай
І здыме стому ціхая Сула,
Як верная дачка сівога Нёмана.
І ногі панясуць мяне нястомна
Да некалі шматлюднага сяла.
... Жыццё гартае вечны каляндар.
Сыходзяць людзі – патухаюць
зоры.
Спатоль тугу, мой дзедаўскі
абшар.
Дай птушцы крылы лётаць
на прыволлі.

1998

## ДЗВЕ СЦЯЖЫНКІ

Дзве дачушкі –
дзве сцяжынкі,
Долі Бог вам дай
І на кволыя сцяблінкі
Сонейкам заззяй.
Як ад горкае самоты
Мне вас зберагчы?
Вы ў часіну адзіноты
Верце ў касачы,
Што цвілі ля нашай хаты
З даўняе пары.
Верце ў песню, што
дзяўчаты
Спявалі на зары.

1995

## МАЯ АЙЧЫНА

Да болю родная зямля,
Лугі і пералескі.
І шэпт ляснога ручая,
І ўсмешка першае пралескі.

І зорак вечны карагод
У шчодрым небе.
І працавітых душ узлёт
У лусце хлеба.

Сюды вяртаюся з дарог.
І ёсць прычына:
Паходняй свеціць мне здалёк
Мая Айчына.

2000

## КАЛІНА

*Памяці Надзеі Янучок*

Так сумна
без цябе.
Так крыўдна,
так балюча.
І не суцішыць боль
Сляза пякучая,
І не залечыць ран
Трава гаючая.
Цябе няма.
Так пуста
без цябе.
Так горка,
адзінока.
І чорны снег,
І цішыня навокал.
І болей не пачуць
Твой звонкі голас.
Асыпаўся. Даспеў
Твой жытні
колас.
І ўсё ж яны паспелі
прарасці
Твае зярняткі
        светлай дабрыні,
Што свеціць нам
надзеяй у жыцці.

Ты – ёсць.
Ты – ў сэрцах нашых.
Памяць не адрыне.
Тваё цяпло, і клопат,
і ўсмешку.
…І песняй адгукаецца
каліна,
Што ветла чырванее
на ўзмежку.

2012

## ПРЫЙДЗІ

*Маме*

Мне б да цябе прыйсці,
Пазваць у госці…
А я не памятаю зусім
Ні твар, ні постаць.
Матулечка мая,
Павер мне, мама,
Што не было і дня,
Каб я не ўспамінала.
І кожны раз прашу
Цябе, адзіная,
Прыйдзі у сон, прыйдзі
Хоць на хвіліну.
Не расплюшчу вачэй
Да самай раніцы,
Каб мне з табой даўжэй
Пабыць, пабачыцца.
Хто зразумее, хто?
Ці дапаможа гору?
Ужо столькі год прайшло,
А мне здаецца – ўчора…

## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Роўнай сцежкай
 пушчанскаю
Ў час духоўнага
 бездарожжа,
Светлай літасцю,
 ласкаю
Вяртай нас дадому,
 Божа.
Душы нашы
 напоўняцца
Чысцінёй
 першароднасці.
І мінулае
 ўспомніцца
Днём сягодняшнім
 з годнасцю.
І прыпасці захочацца
Да гаючай крыніцы,
Бо буслам тут –
 клякочацца!
Салаўям тут –
 не спіцца!
Вось і я, беларусачка,
Тут душой
 акрыляюся.
Белавежскаю пушчаю
Да вытокаў вяртаюся.

## У ЗАВІРУХУ

Мне б – закружыць у белым вальсе.
Мне б – проста ў вір імклівых зорак.
Адчуць і вольнасць, і пакору,
І сэнс жыцця у аднгачассе.

Каб танец дзіўны і шчаслівы
Узняў над грэшнаю зямлёю.
Стаць на імгненне незямною,
Часцінкай космасу імклівай.

Сняжынкі-зоркі завірухі
Ператвараць у квецень мая
І цалаваць матулі рукі,
Пялёсткамі зямнога раю…

Мне б закружыць у белым вальсе.
Мне б проста ў вір імклівых зорак.
Адчуць і вольнасць, і пакору,
І сэнс жыцця у аднгачассе…

1995

## МОЙ МІНСК

Мой горад старажытны й малады.
Мой Мінск у промнях ранішняга сонца.
Табою ганарыцца мне бясконца…
З'яднаў нас лёс на доўгія гады.

Ты перажыў нямала на вяку.
Нямігі боль у сэрцы аж да скону.
Здавён самаахвярнасцю вядомы,
Даваў адпор ліхому чужаку.

…Удалеч воды Свіслачы імкнуць,
Трымціць слязой на веях Востраў Слёз.
Тых ліхалеццяў, што адмераў лёс,
Нам не забыць. Ды час не павярнуць.

Ямчэе колкай памяці сувой,
Як абярэг надзеі чалавека.
Так ёсць цяпер. І так было спрадвеку:
У промнях сонца – велічны спакой.

І лёсу ільняное палатно
Нам разам ткаць, любімая сталіца, –
Маёй душы празрыстая крыніца.
І адчуваць: мы – цэлае адно.
……………………………………………
Мой Мінск – у промнях ранішняга сонца.
Мой горад, старажытны й малады…

2006

## ТЫ МНЕ НА ПАМЯЦЬ ПАДАРЫЎ БЛАКНОТ…

*А. В.*

Ты мне на памяць падарыў блакнот,
Каб новым вершам там было не цесна.
Каб светлая хвалюючая песня
Узнеслася над звыкласцю турбот.

Агністасць узыходзячай зары –
Ратунак ад тужлівага змяркання,
А для паэта – радасць хвалявання.
Ты мне на памяць веру падарыў.

А я – дзівачка! – думала, што словам
Больш не ўзрастаць з-пад сумнага пяра.
Відаць, прыйшла ізноў мая пара.
І стаў радок жыцця майго замовай:

Ты мне на памяць падарыў блакнот.
Дзе кожны ліст – як новы чысты дзень,
Як спадзяванне сонечны прамень
На новы твор – жыцця майго узлёт.

Ты мне на памяць падарыў блакнот…

2002

## ЗНОЎ ЖЫЦЦЁ ЎСМІХАЕЦЦА МНЕ

Чулі жаўранка спеў па вясне?
Столькі вёснаў спяваў,
Ды не мне.
…Кладкай вузкай раку перайду.
Страх і холад – наперад іду.
Пада мною вада бурліць,
Дай, Бог, сілы, хоць крок ступіць.
Не стаміцца, не стаць, ісці.
Бераг той – як збавенне ў жыцці.
Крок. Яшчэ… Ну, яшчэ адзін…
Сэрца шэпча: "Смялей ідзі".
Сэрца ведае: перайду.
Там каралі з бурштыну знайду:
Слёзы соснаў, як слёзы мае,
Сушыць сонейка па вясне.
Крок, нарэшце, апошні. Ўсё.
За спіною не метры – жыццё.
Я змагла. Перайшла! Сустрэнь,
О прыгожы і сонечны дзень!
Сінь нябёсаў і зелень траў
Для мяне ты ў вянок сабраў.
Зіхаціць у рацэ вада,
Назаўсёды сплыла бяда.
Зноў жыццё ўсміхаецца мне
Песняй жаўранка па вясне.

1992

# КАРАБЛІ

Адкрываю сябе наноў
І здзіўляюся: столькі веры!
У магічнасць чароўных слоў,
Што ты некалі мне даверыў.

Ноч. Не спіцца. Прыбой марскі
Просіць новых радкоў да рання.
Пуцяводны маяк на гары
Зноў варожыць нам на спатканне.

Чырванее яго зара
Над Бярдзянскім салёным плёсам.
Дык лаві ж, прыручай сама
Сваю сінюю птушку лёсу.

Вось і ранак. Ці ж даплылі
Да цябе мае думкі-хвалі?
…Зноў іду сустракаць караблі,
Што вяртаюцца з сіняй далі.

Бярдзянск, 2009

## І ПЯШЧОТА МАЯ, І БОЛЬ

Што мне восень з яе ліставеем,
З развітальнаю ноткай дажджу?
Ты – слязінка мая ўваччу,
Успамінам шчаслівым навеяна.

І халодная літасць зімы
Аніяк не трывожыць.
Шчасце, ведаю, наваражаць
Чысцінёй беласнежнаю сны.

І пяшчота мая, і боль –
Незабудкі ля светлай вады.
Ліставірам закружаць гады…
Стаць часцінкай тваёй дазволь.

1997

## КАРАЛЕВА
### Санет

Віраваў на дварэ лістабой.
Колькі дзён мы блукалі з табой.
Ды, нарэшце, у зорны час
Бог сустрэчай аддзячыў нас.

Мой кароль, мой анёл, мой герой,
Назавеш мяне добрай сястрой –
Буду звонкаю птушкай спяваць
Ці рачулкай пяшчотна люляць.

А сяброўкай палічыш мяне, –
Не пакрыўджу ў здраднай мане.
Стану ў цемры тваімі вачыма,
Стану крыламі за плячыма.

Сярод грому, жыццёвых залеваў,
Чую голас: “Мая каралева!”

1995

* * *

Адчуваю тваю
магутнасць
У восеньскім подыху
ветру.
У гаючым бальзаме
паветра,
У ціхім шэлесце траў
Адчуваю тваю
прысутнасць.
Дык у чым жа яна,
Пачуцця чалавечага
сутнасць?
У сотнях цяжкіх
кіламетраў,
Што лёс чалавечы
ўвабраў?
А можа, у кароткіх
імгненнях
І ў аднойчы спраўджаных
летуценнях
Сярод вечнага тлуму
спраў?
А можа…
Ды проста ў тым, што ты
Цэлым Сусветам стаў.

2008

## БЫВАЙ

Яшчэ нядаўна цешыла цяпло,
А зараз – толькі холадам і вее.
Зноў нашы сцежкі снегам замяло –
Над горадам – каторы дзень! – завея.

Пара было б прывыкнуць да зімы.
Пара… І не трывожыцца у скрусе.
І даць магчымасць светлай завірусе
Завеяць сны, пачуцці і шляхі.

Даверыць ёй, мяцеліцы-кудасе,
Наладзіць баль расстайны, не памінкі.
Кахання боль непадуладны часу.
Ён нам абодвум – вечным напамінкам.

Маім кастрам рабінавым гарэць.
Ды, мабыць, і стагоддзяў мне не хопіць,
Каб сэрца заінелае сагрэць.
Бывай… У шчасця літасці не просяць.

2000

* * *

Абяцаю, што больш ані
Я спакою твайго не парушу.
Толькі ведай, што ты ў агні
Спапяліў маю душу.

Толькі памятай зорны след
У бяздонным вячэрнім небе.
Ты дарыў мне тады Сусвет.
Божа мой, як ён мне патрэбен.

Не. Не трэба… Тваіх вачэй
Не сагрэю сваёй пяшчотай.
Мне не сумна сярод начэй:
Побач верная адзінота.

Адчуваю, што словы больш
Для цябе не кладуцца ў вершы.
Час, здаецца, – не трэба й горш.
Дзень апошні…
Дзень першы!

2000

## НЕ АДРАКАЙСЯ

Не адракайся.
Ад самага светлага рання,
Ад вольнага подыху ветру,
Ад шэпту майго на світанні.
Ад водару скошаных траў,
Ад бяссоння.
Ад шчырых дажджынак у твар,
Ад неба бяздоння.
Ад квецені райскай садоў
І ад болю.
Вяртайся.
Як з самых завоблачных гор.
Як з бою.

Прымі за шчаслівае
Наканаванне
Наша каханне.

2000

## РАТУЕ СЛОВА

Радок – надзея для паэта.
Ратуй мяне, мой сябра-верш.
Душа раструшчана і (дзе там!)
Яе без болю не збярэш.

І перасыпаную болем,
Бы шчодрым прысакам, душу
Я жыць паэзіяй і воляй,
Спяваць прасветла папрашу.

Не наракай, самота-хмара,
Ахвяру страціўшы сваю.
Дажджом праліся на абшары,
Змый раўнадушша і хлусню.

…Нясмела, трошкі сарамліва.
Дажджынкі па аконным шкле.
Бывай, туга-журба. Шчасліва!
Ратуе слова зноў мяне.

2000

* * *

Так здорава, што ты жывеш
на свеце,
Што неба на дваіх
у нас адно.
Што на маёй пакутлівай
планеце
Вячэрняю зарой тваё акно.
Што ранкам свеціць сонца
так прыветна...
З нябёс гукае першы
ціхі гром.
І люба ўсё. Жывём з душою
светлай
І п’ём красу дзівосную нагбом.
Хай адцвітаюць вішні
на ўзмежку,
Саткаўшы нам бялюткае радно –
Сагрэе й праз гады сяброў
усмешка:
– І сэрца на дваіх у вас – адно.

Так здорава, што ты
жывеш на свеце.

1998

## СУСТРЭЧА

Мы зноў сустрэліся. Тады,
Калі не верылі ў сустрэчу,
Калі быў сцюжны кожны вечар,
Даўно замецены сляды…

Цяпельца шчырае расклаў
У час бязлітаснай мяцелі.
Яго затушваць не пасмелі.
Як дзіўны цуд, агонь палаў!

Дзівіліся, як пакрысе
Знікаў душы балючы холад,
А памяць – сотнямі іголак! –
Перашывала думкі ўсе.

Мы зноў сустрэліся. Тады,
Калі паверылі ў сустрэчу.
…Людзей ратуе мноства рэчаў,
А з іх – каханне і сляды.

1999

## АЖЫНАВЫ СМАК

Узяць – і ўсё перакрэсліць.
І ўсё напісаць наноў.
І лёс з чорна-белых сноў
Зрабіць найбялейшым у свеце.

Узяць – і тваю пяшчоту
Жар-птушкаю прыручыць.
І вернасцю заручыць
Твой боль і маю адзіноту.

Узяць – і сваё каханне
Узнесці на п’едэстал.
Бо самым салодкім стаў
Ажынавы смак спаткання.

Карпаты, 2002

* * *

Бяссоннем зноў ратуюся, адзіны.
Плывуць радкі. І кожны з іх –
мой боль.
Няма такой ніводнае часіны,
Каб думцы ні акрыліцца табой.

Пакрыўдзіцца ўжо сто разоў хацела.
Забыць, махнуўшы спаленым крылом.
А за акном, як лебедзь, месяц белы
Трывожыць душу казачным святлом.

…Нам аднаго хапала парасона.
Складаў каханню дождж
зямную песню,
І ты чытаў мне вершы улюбёна,
І хмаркі нас увысь на крылах неслі…

Пакрыўдзіцца… Забыць усё хацела,
Ды боль у сэрцы так і не пакінуў.
З табой – душа, і розум мой, і цела.
Жыццё – радно з нязгасных успамінаў.

Тамань, 2003

## ВЯЛІКАЯ МЯДЗВЕДЗІЦА

*…Ведаеш, калі мы будзем ненадоўга расставацца, давай шукаць на небе Вялікую Мядзведзіцу і праз яе перадаваць свае думкі.*

(З нашай размовы)

Ізноў Вялікая Мядзведзіца
Прыцягвае мой позірк да світання.
Ізноў ці пішацца, ці едзецца
З табою ў думках з вечара да рання.

І як стрываць пачуццяў калаўрот?!
Спыніць. Насуперак жаданням.
Каторы год! Каторы доўгі год!
Пульсуе ў венах нашае каханне.

Вясна прыходзіць. Зноў, як і тады
Рабіна за акном нявесціцца.
Ідуць. Бягуць. Імчаць стрымглаў гады!..
Ды ўсё са мной – Вялікая Мядзведзіца.

Бярдзянск, 2009

## МАЕ ЎСПАМІНЫ

Мае ўспаміны – тое паўднёвае
сонца,
што хаваецца за велічную скалу,
каб уранку зноў пацалункамі
галубіць сіняе мора.

Мае ўспаміны – той гарачы
пясок,
на які балюча ступаць босымі нагамі,
хоць яго студзіць парывісты вецер
і лашчаць высокія неўгамонныя хвалі.

Мае ўспаміны – той пранізлівы крык
адзінокай чайкі,
што, быццам белы ветразь,
лунае над цёмнаю марскою вадою.

Мае ўспаміны – тая высокая скала,
за якую сплываюць не толькі
белакрылыя воблачкі, але і
свінцовыя жыццёвыя хмары.

Мае ўспаміны – той спорны летні
дождж,
што раптоўна напаткае ў дарозе,
ўратаваўшы ад дзённай
нясцерпнай спёкі.

Мае ўспаміны – тыя высокія
зіхоткія зоры,
што выпраменьваюць
толькі нам з табою
вядомае святло.

Мае ўспаміны – гэта безліч
адзінокіх бяссонных начэй
і безліч шчаслівых сноў,
дзе мы з табою разам…

І я проста ўпэўнена,
што ты мне можаш сказаць
тое ж самае.

Тамань, 2003

## ЗАЎТРА

Заўтра зноў сустрэнемся, як колісь.
Зноў захоча сэрца цеплыні.
Дзён мінулых з будучыняй повязь –
Дні спаткання, светлых мараў дні.

Заўтра… Ты суцешыш, адагрэеш
Вуснаў заінелых пекнату
І, нарэшце, любы мой, паверыш:
Я душы раднейшай не знайду.

Для цябе багіняй і няшчасцем
Я была. Была… Чаму ж была?
Людзі называюць гэта шчасцем,
Калі сэрцу хмельна без віна.

Мёд кахання – светлую атруту –
Ў адзіноце п'ём каторы год!
Заўтра… Богам праведным пачуты
Боль, і спадзяванне, і узлёт…

2002

## ТАБОЙ ЖЫВУ

Табой жыву. І дыхаю – табой!
Свет іншым стаў – шматколерным і чыстым.
Крынічны мой душэўны неспакой
Бруіцца срэбрам, ціха і ўрачыста.

Душу вяртае зноўку з небыцця
Чароўны танец восеньскага лісця,
І даўні верш ільдзінкай пачуцця
Ужо не раніць сэрца, як калісьці.

Закрэслю ўсё. Перапішу наноў.
І ні аб чым зусім не пашкадую.
З усіх зямных і спраўджаных шляхоў
Шлях да сябе – адзіны уратуе.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Табой жыву. І дыхаю – табой!

2009

* * *

Твой ад'езд лёг на плечы
Цяжкаю ношаю.
Думкі водбліскам позняй зары
Устрывожаны.
Мінск начны апусцелы
Усміхнецца прыветна мне,
І калегі уранку
Павітаюцца ветліва.
Толькі я на мяжы
Між сустрэчай і ростанню.
Толькі б мне закрычаць
І тужліва, і роспачна.
Ды стракочуць суцешна
Вечаровыя конікі.
Жнівень – тая пара,
Калі лета не скончана.
Чарку хмельнага
Мёду на стол
Абяцае мне верасень.
Пацалункам суцішыцца боль:
У сустрэчу мне верыцца!
Спеліць сэрца надзею,
Што зноў зашчабечуць нам
Ластаўкі,
І юначае мроіва сноў
Стане яваю яснаю.

2003

* * *

Адзвінела.
Адкаласіла.
Завірухай адгаласіла…
Плакаць? Можна…
Смяяцца – трэба!
Лёс загнаўшы ў куток
Ад “шчасця”.
Толькі вунь яно –
Наша неба.
Хмельнасць зор,
Як віно прычасця.
Толькі вочы,
Твае мне вочы
Душу позіркам
Раняць зноўку.
Зноў у сон мой
Прыходзіш ноччу.
Спеліш вусны мае
На золку…
Снегам першым
Пакрыты пожні.
Сумнай песняй
Ўздымаю крылы.
Ты – мой першы.
І мой апошні.
Адзвінела.
Адкаласіла.

2003

## ТАБЕ І МНЕ

Табе і мне нялёгка на Зямлі.
Здаецца, што прасцей – прыняць
рашэнне,
Каб крочыць поруч па жыцці маглі
І успрымаць каханне як збавенне
Ад адзіноты ржавых ланцугоў,
Ад волі непатрэбнай і дажджлівай,
Ад праведнасці незямной багоў
І ад упартай прагі стаць
шчаслівай.
Ад слодычы разважлівай хлусні,
Ад рэк бязводных, палыну падману,
Ад сноў відушчых. Колькі іх ні сні,
Не загаіць ім боль адкрытай раны…
…Няхай плывуць гады, як жураўлі.
Віно кахання будзе хмеліць веі
Табе – у шчодрай замеці зімы,
І мне – у срэбным вэлюме завеі.

1997

## НАТХНЕННЕ

Чаруе лета казкамі вясёлак,
І вока поўні мне міргае ўночы.
Туману сырадоем ясны золак
Пачаставаць занадта ўжо ахвочы.

Напой дзівосны прыхавай дачасна,
О панна-ноч, дарадчыца мая!
З’яўляецца душы радок нязгасны
Начной парой з-пад шчырага пяра.

Званочкам срэбным спеў вядзе
гадзіннік,
Ўслаўляе міг святога адкрыцця,
А з-пад пяра ў цішы начной гадзінай –
Чароўны сон сапраўднага жыцця.

2004

## ШЧАСЛІВАЯ ЖАНЧЫНА

Спаліла ўсе масты,
Сагрэўшы золкасць
                    дзён.
Пайшла у далячынь,
        не азірнуўшыся
На пераправу, якую
                ладзіў той,
Каго любіла
больш за жыццё.

І тысячы начэй,
Бяссонных і глухіх,
Умольваў
            дождж сляпы
“Адрэзаць і забыць”
Гарачы подых зім
І люты холад лета.

Ачысціўшы душу
Праз сотні навальніц,
Аддаўшы крык нямы
Бязлітасным грымотам,
Уваскрэсла.
                Зноў жыву.

Праз бездань гулкіх дзён
Я дзякую ЯМУ,
ХТО так і не наладзіў
                    у жыцці
Ніводнай пераправы,
Што мой крыжовы шлях
Стаў шляхам да сябе.

Інакш я ніколі б не стала
Такою, як зараз, –
Шчаслівай жанчынай.

2013

* * *

Давай зберажом з табою
Наш рай, маленькі і светлы.
Чыстай кропелькай дажджавою
Будзем марыць пра травы ўлетку.

Хай адчуе бязмежнасць душаў
Намагнічаны шчасцем космас.
Заркападам пялёсткі ружаў
Хай спадаюць у росы…

Давай пабудуем разам
Храм пяшчоты і дабрыні.
І запалім у гэтым храме
Залатыя кахання агні.

І, як вернікі, будзем грэцца
І здзіўляцца самім сабе.
…Цэлы свет у жаночым сэрцы,
Ахвярую яго – табе!

2009

* * *

Сціх нечакана спадарожны вецер.
І ветразь наш міжволі асядае.
Не бойся, любы. Я з табой.
На свеце выпрабаванняў
многа не бывае.
Падхопім вёслы. Возьмемся аберуч,
Ўтрымаем нашу лодку на плыву.
Шанцуе тым, хто ў еднасць
сэрцаў верыць,
У скрусе не схіляе галаву.
О сябра-вецер! Стомленым
ад шцілю
Вярні надзею, уратуй нам шлях.
...Лунае ветразь. Зноў адчуўшы сілу
Прасветленай усмешкі на губах.

2013

* * *

Шлях да цябе пралягаў праз
іржышча калючае.
Босыя ногі пакінулі знакі
слядоў…
Зёлкі так доўга шукала
лясныя, гаючыя,
Не адчуваючы цяжар
пражытых гадоў.
Доля за мной кавыляла,
стаміўшыся, енчыла.
Летняй расой амывала
былыя сляды.
Раптам здалася. Ды годна,
з малітвай укленчыла:
Полем жытнёвым спяшаўся
насустрач мне ты.

2014

## БОЖЫ ДАР

Хвалююча ўзгадаць
 пад шум сасновы
Пагляд вачэй блакітны і
 вясновы.
Чакаць прыемна ў ростані
 сустрэчы
І з небам зорным гаварыць
 штовечар.
Азёрным хвалям мары
 давяраць.
Табою жыць! Каб новы
 дзень вітаць!
Душа мая. Паветра.
Сонца жар,
Што спапяліў дажджы
 майго юнацтва.
…І не лічыце, людзі,
 за дзівацтва
Апошняга кахання
Божы дар.

Нарач, 2014

## БЕЛАЯ ЧАЙКА

Высокае неба. Зіхоткія зоры
І казка Эгейскага мора.
Стагоддзямі чуюць мелодыю
хваляў
За дымкай прыветныя горы.
Чаруе святлом незямным
зыркі месяц,
Ды срэбра турэцкай нірваны
Вяртае дадому, дзе Нёман
і Бесядзь,
Дзе Кромань у пушчы схавана.
Туды, дзе аднойчы табе
на світанні
Прымроіўся дзіўны і радасны
сон,
Як белая чайка – вястунка кахання –
Лунае над безліччу міляў і дзён.
Дзе светлы мой сум па табе
у расстанні
Адбіўся у шэпце цнатлівых бяроз.
…То вернасць маю на адзіным
дыханні
Вецер з поўдня табе прынёс.

Кушадасы, 2012

## ЖАНОЧЫ ЛЁС

Столькі святла, цеплыні і блакіту!
Сэрца спявае, радасць – наросхрыст!
Сіняя сінь – то валошкі у жыце.
Белая бель – то жыцця майго вёсны.

Куфар гадоў напалову запоўнен,
Ды не стаміліся ткаць яшчэ кросны.
Хвалі пачуццяў... Надзейны мой човен...
Зоры начамі мілуюцца ў плёсах...

Доўга да шчасця душу рыхтавала,
Кужаль свой шэры адбельвала ў росах.
Вось і кладуцца так гожа і стала
Лёсу палотны, як травы ў пракосы.

Столькі святла, цеплыні і блакіту!
Рунь збажыной стане спелай аднойчы.
Любы мой, светлым каханнем спавіты
Сноп нашай долі, як лёс мой жаночы.

Алушта, 2011

## Сказка наяву…

Как-то неожиданно для многих
Я влюбилась в зимнюю пору.
И, найдя подснежники в сугробах,
Сказку ощутила наяву.

И теперь снежинки, как ромашки, –
Мудрое природы волшебство.
И блестят сосульки, как стекляшки,
Памятью из детства моего.

Обнимают с нежностью метели,
И в сугробах тонут облака,
И звучат в душе моей капели,
И в твоей руке – моя рука.

2011

## ЭТО – СУДЬБЫ РАССВЕТ

Это – иная любовь!
Это – не та, что была.
Миром наполнен дом,
Светом молчат зеркала.

Это – иная любовь!
Это – полет в душе!
И возрождает вновь
Удача на вираже.

Это – мерцанье звезд.
Мой и родной – навек!
Это – медовость слез…
Это – дрожанье век…

Это – небесный свет.
Это – сомненья прочь!
Это судьбы рассвет
Дарит, сгорая, ночь.

2013

## …СРЕДИ ЗИМЫ

А мы февральским зноем
вылечим
Забытых чувств весеннюю
прохладу.
В луга раздольные
Себя – любимых! – выманим.
Растает снег под жарким
звездопадом.
И весело, безудержно
счастливые,
Нырнём в копну душистую
и знойную!
И будут петь над нами
звёзды синие
Заздравную.
Захмельную.
Застольную…
Да будет так! И это – наше
право.
О дар небес! Ему подвластны
мы.
Горят костры. Маняще
пахнут травы
…среди зимы!
…среди зимы!

2011

## СЛОВОПОРТРЕТЫ, *навеянные поэзией Велимира Хлебникова, и не только…*

Романтик увлеченный
и упрямый,
Хранящий столько тайн!..
Сорвавший плен оков.
По-колдовски чарующий глазами
И уносящий в сладкий плен грехов…
Умен. Сосредоточен. Вмеру строг.
Но как ни прячь, пробьются вновь они –
Страстей животворящие огни.
Свирельная шальная безмятежность,
Органность, пылкость, пламенность
и нежность:
Душа не терпит штильной немоты!
…Все звуки, краски, вся <моя > Вселенная,
Все сумасбродные и смелые мечты –
Ты.
Счастливая. Влюблённая. Любимая <..!..>
Тобой и небом бережно хранимая.
Хотящая. Зовущая. Молчащая.
В «*хотели*» все метели растворящая.
Свой крест обредшая
И воскресшая.
Я.
Падает тихо снег…
Сохраняя наши следы.
И в огненно-ярком светле
Греется наше МЫ.

2011

* * *

Горной речкой накатит грусть
И не отпустит с миром.
Тайне своей я улыбнусь.
Имя её – Владимир!

И будет для нас тяжелее скал
В разлуке печаль-кручина.
Живём в королевстве кривых зеркал
Не в этом ли вся причина?

Но твой поцелуй на моих устах,
Мужчина, владеющий миром.
Громким эхом звучит в горах
Имя твое – Владимир!

2002

## БЕССОННИЦА

“Бессонница...” – ты шепчешь мне.
“Бессонница...” – шепчу тебе в ответ.
Давай с тобою никогда не ссориться,
Давай всегда встречать вдвоем рассвет.

Рассветы наши быстрые и ранние.
А так хотелось ночь не торопить.
Но снова птицей улетает раненой
В холодный мрак бездушное такси...

Луна растает в утреннем тумане,
И, кутаясь в сиреневую шаль,
Я назову свою любовь дурманом,
Но все же расставаться с ней мне жаль.

“Бессонница...” – ты шепчешь мне.
“Бессонница...” – шепчу тебе в ответ.
Давай с тобою никогда не ссориться,
Давай всегда встречать вдвоем рассвет.

1993

* * *

Я приду к тебе любой порой.
В зной, в грозу, в ненастный
зимний вечер.
Только позови меня, родной.
Только не бросай слова на ветер.

Знаешь, сильным будь, и я пойму.
Каждую techинку расцелую.
Позови меня в даль светлую
И встречай, какая есть, такую.

С юмором, улыбкой или без.
Плачущей, унылой, но не жалкой.
Луч надежды временно исчез,
Чтоб взойти рассветом нежно-ярким.

Полдень, ты рассвет не торопи.
Каждый миг так важен. До предела.
Сердце на ладони протяни и отдай,
Кому отдать хотела.

И в ночном сиянии луны
Две ладони, сердца два горячих.
В небе две блуждающих звезды.
Путь один для них уже маячит.

1992

* * *

Я падала.
И вот – в последний миг! –
Ты мне решительно
Подставил плечи.
И голос твой –
Единственный родник.
А ведь и вправду
Время лечит… Лечит!
Душа отбросила
Сомненья прочь.
Едины мы в порыве
Пылкой страсти.
И становясь твоею
Жизни частью
Благославляю
Этот день
И ночь!

2000

## БЛАГОДАРЮ

Как долго я тебя ждала.
Порою вьюжной
Метель мелодию вела
О трудной службе.

Мне вьюга пела о тебе,
И звезды ночью
Шептали сказку о судьбе,
Счастливой очень.

Судьба неласковой порой
Бывает к людям.
За жизнь, что кажется игрой,
Жестоко судит.

Но величайшей из наград –
Росток надежды.
И – через тысячи преград! –
Твой голос нежный.

А все же дарит иногда
Судьба рассветы.
Благодарю, что у меня
На свете есть ты.

Ханкала, 2004

* * *

Когда ты вдалеке, тускнеет солнца лик.
Луна покрыта сумрачной вуалью…
Считаю дни и славлю встречи миг,
Борясь с тоской и временной печалью.

Смолистый запах, мелодичный шум
В бору сосновом дорог и приятен.
И песни стон под звук гитарных струн
Душе моей так близок и понятен.

Тоскливо мне. Хотя вокруг – весна!
И с пеньем птиц лесных приходит утро.
И странно. И отрадно. Я – не я,
А наше *мы* живет во мне как-будто.

Живет и верит в чудный звездопад,
В реальность самых трепетных желаний.
…Твой поцелуй. И больше нет преград.
И мы летим к вершинам мирозданья!

Нарочь, 2014

## ПЛЕН ЛЮБВИ

Зарифмую «*метели*» с «*хотели*»
И, забыв про условности все,
Утону в сладком звуке свирели,
Ощутив грешный рай на земле.

Став иной, звонкострунной,
                                        крылатой
(Вдруг весной оказалась зима),
Растворяюсь в тебе безвозвратно,
Пригубив колдовского вина.

Принимаю бесценной наградой
Каждый вздох твой, и взгляд,
                                        каждый миг…
Ты – судьбы тайный знак и отрада –
Плен последней <нет, первой!> любви.

2011

## Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**Падліпская** Зоя Іванаўна

**Малюся зорам**

У аўтарскай рэдакцыі

Адказны за выпуск *М. А. Кныш*
Мастак *Н. У. Сустава*
Камп’ютарная вёрстка *К. М. Лісецкага*
Карэктар *Л. І. Пшанічная*

Падпісана да друку 15.09.2014. Фармат 70×90 1/32
Папера афсетная. Гарнітура Mariam. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 3,51. Ул.-выд. арк. 2,65. Тыраж 500 экз.
Заказ № 85.

Установа «Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/219 ад 11.03.2014.
Пр. Пераможцаў, 47/1, пад’езд 2, 220035, г. Мінск.

РУП «Выдавецтва “Адукацыя і выхаванне”».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/17 ад 26.11.2013.
Вул. Захарава, 59, 220088, г. Мінск.